# НАВІНКІ

30 САКАВІКА - 10 КРАСАВІКА 2000 №6(28) Кошт свабодны

# LEGITIMIZE



# LUKA

## *Да* пытаньняў палітычнай контар-прапаганды

Інфармацыйная вайна, абвешчаная нашай краіне 5-ай калёнай натаўскіх асасінаў, увайшла ў новую фазу, для якой характэрнае выкарыстаньне самых апошніх дасягненьняў у вобласьці сродкаў прапаганды.

Атрыбутамі часоў іхтыязаўраў і птэрадактэляў выглядаюць сёньня гэткія прыёмы палітропа як надпіс фарбай на трансфарматарнай будцы «Лука –дурак». Наколькі гэта ўсё калдырна-наглядна дэманструе справа ў Стоўбцах. Пакуль Шыдлоўскі і Лабковіч акуратна выводзілі на заборы свае графіці, іх пасьпелі вылічыць і ўпекчы ў СІЗО на колькі гадкоў. Такое больш не канае. Апошні «нью» ў арсэнале апазыцыйных лаўцоў чалавечых душаў – налепкі-стыкеры. Сьцены дамоў, ліфты, мэтро, нават туалетныя кабінкі на факах – усьцяж усё заклеена налепкамі гэтак жа шчыльна, як слупы абвесткамі кшталту «Сбросить вес за 5 дней» або «Вылечу от алкогольной зависимости». Наколькі эфэктыўная такая зброя як клейная паперка, – ілюструе факт з рэальнага жыцьця. Напярэдадні 25 сакавіка супрацоўнік рэдакцыі Юра добрую гадзіну прапарыўся быў у адной з сталічных апорак па падазрэньні, што нібыта ён памеціў свой квартал налепкамі пра заўтрашні Дзень Волі.

На кожны выпад ідэалягічных ворагаў павінен даваццa рашучы адэкватны адпор. Пры гэтым, як казаў маршал Клім Варашылаў, біць ворага трэба на ягонай жа тэрыторыі і малай крывёй. Як гэта зрабіць? На днях група ананімных патрыётаў распрацавала макеты налепак, якія рэкамэндуюць выкарыстоўваць у якасьці контарпрапаганды ў грамадзкіх месцах. Стылізаваныя пад апазыцыйную прадукцыю, яны лёгка спажываюцца і безумоўна выклікаюць здаровую ляяльную рэфлексію на актуальную палітычную сытуацыю.

А каб канчаткова выдзернуць зубы ў бэнээфаўскай гідры, варта ўладам увесьці закон аб акцызе на продаж жуек. У якасьці акцызных марак могуць быць тыя ж налепкі, якія можна ўкладваць у абгортку жуйкі. Такім чынам, малюпасенькія карапузы, разгортваючы «Love is...», атрымаюць першы ўрок прапаганды, а маладая генэрацыя будзе надзейна падсаджаная на правільныя палітычныя каштоўнасьці...

## Прыкольная герылья



Актуаліі на стар.4-5

## Выбары бяз выбару?

Стар. 3

## «Дзень Няволі»: правакацыя, рэпрэсія, рэвалюцыя?

стар.2

## НАВІНКІ HOME VIDEO presents the super-comix BACK TO THE FUTURE

Page 8




Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс 63439. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 30.01.2000 г., а 01.00. Тыраж 10100 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная Зорка» ВПП імя Я.Коласа, г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №1618

# Апазыцыянэры-трансвэстыты




*Такія сцэны на вуліцах у Дзень Волі былі звыклай справай. Хто вінаваты?*

Каля 500 завінчаных, бярлога БНФ растарабаненая, як студэнцкі інтэрнат пасьля сьвяткаваньня мэдыюму, паламаныя японскія кінакамэры расейскіх каналаў... Каму гэта было выгадна? – з пафасам запытваюцца ацалелыя журналюгі, смачна і гучна мусолячы на палосах *Белорусской Деловой Газеты* масакру 25 сакавіка. Выснова прымадонаў тэкставых рэдактараў безапэляцыйная: толькі апазыцыйным мікі-маўсам. Пры звычайным раскладзе навахвальная апазыцыя магла сабраць у Дзень Волі хіба што якую дзюжыну «адорвышаў». Ну прадэфілявалі б яны па праспэкце, загадзілі б праежджую частку сваімі друкаванымі экскрэмэнтамі, скорчылі перад кінакамэрамі ненатуральную дэмакратычную грымасу агульнанацыянальнага смутку... Каму ад усяго гэтага быў бы гемарой? Нікому! Акрамя хіба што даверлівага лашка Спэкхарда. Той, прабашляўшы напярэдадні чарговы гранд на чарговую аксамітную рэвалюцыю, зноў адчуў бы сябе разьведзеным на бабло.

Замест гэтага мы сталі сьведкамі нябачнага ў гэтым стагодзьдзі трыюмфу апазыцыі. Па ўсіх каналах толькі й базараў, што пра Калпакова, ягоную раздолбаную «мыльніцу» і апэратараў АТН, якім спэцназ пусьціў трошкі таматнага соку. Калі дэмакраты атрымалі такія дывідэнды ад падзеяў 25 сакавіка, узьнікае лягічнае пытаньне: ці не яны самі забадзяжылі гэты дзень даўгіх дубінак? Існуе думка, што суботняй раніцай 25.03.00 сталічная міліцыя засталася сядзець дома.

«Хто ж тады тыраніў народ на Абцасе?» Вуліцы і праспэкты Менску запаланілі пераапранутыя пад мянтоў апазыцыянэры. Інструкцыі, што атрымалі ўдзельнікі маскараду ад закулісных Спілбэргаў, былі вельмі простыя: зрабіць для НТВ брутальную карцінку ў стылі оруэлаўскага «1984» і адначасова выклікаць у простых лахоў антыпрэзыдэнцкія флюіды. Для гэтага адмарозкі ў бронекамізэльках ня гідзіліся ні чым: БТРы шмыгалі па вуліцах, як тралейбусы, службовыя ваўкадавы выдзялялі перадабедзенную сьліну, журналістаў і мінакоў вязалі, як тых хачыкаў на маскоўскіх базарах. Зразумела, квазі-міліцыянты не адмовілі сабе ў задавальненьні наехаць на віцэ-бургамістра Чыкіна і прайсьціся дубіналам па сьпінах тэлевізіёншчыкаў з АТН. Што называецца, дарваліся.

Публіка ж не разабралася ў тонкасьцях апальных інтрыганаў і дала веры, што нібыта ўлады наводзяць марафет у стылі ПінАчэта. Нават Меерхольд сказаў бы «веру», паглядзеўшы на ювэлірную акторскую гульню апазыцыйных трансвэстытаў.

Таму, калі Вы зацікаўленыя ў спакоі і стабільнасьці, трэба не дапусьціць падобных мастацкіх правакацыяў надалей. Калі Вас будуць вінціць на Чарнобыльскім Шляху, ведайце: гэта ня опер, а пераапрануты Лябедзька. Не палохайцеся. Пахлопайце яго па плячы і скажыце: «Маска, я цябе ведаю!» ●

**Аляксандар Керанскі**

## ЦікАва вЕдаць

### Баевікі гуляюць «у гарады»

Час маёй апошняй камандзіроўкі ў Чачэніі падыходзіў да канца. «Здарова, арлы!» – вітаюся я са шчуплымі байцамі АМАП, расквартараванымі ў Аргуне. – «Вы зь Піцеру?» Тых аж перадзёрнула, на твары зьявілася грымаса жаху. «Мы зь Ленінграду!» Першая здагадка, што хлапцы ўтварылі ў сваёй частцы камсамольскую ячэйку, неўзабаве расьсеялася.

Ужо каторы раз расейскія АМАПаўцы як апошнія мараты казеі трапляюць у вахабіцкія засады, губляючы да 100% свайго наяўнага складу. І ляцяць цынкавыя труны ў розныя гарады Расеі: Пскоў, Перм, Пенза... Так-так, менавіта на гэтую акалічнасьць і зьвярнулі ўвагу АМАПаўцы і кантрактнікі: усе нябожчыкі былі з гарадоў, якія пачыналіся на літару «П». Гэтая літара нібы праклятая. Асабліва вешаюцца оманы, што прыехалі зь Піцера, Петразаводзку і Петрапаўлаўску-Камчацкага.

У чым сакрэт крывавай літары? Большасьць палкавых гадалак лічыць: прычына ў... Пуціне. І сапраўды, каго больш за ўсё ненавідзяць жывёлы? Вядома ж Прэзыдэнта-антытэрарыста. Калі так, то наступнымі мусілі загінуць выхадцы з Урупінску, Табольску, Іжэўску і Навасібірску. Аднак гадалкі трохі памыліліся: днямі на засаду напароліся разанцы. Чаму? Відаць, баевікі выбралі сваім праверачным словам ня проста «Путин», а «ПРезидент Путин». Рыхтуйцеся мачыцца ў сарціры!

# Абманутыя спадзевы

## беларускіх кантрабандыстаў



Гэтымі днямі ўся заходняя Беларусь пяе анафэму Аляксандру Квасьнеўскаму і пасылае мор на ягоную хату. «Гэта ж трэба так падкурвіць з парнухай!»

Прэзыдэнт Польшчы наклаў вэта на закон аб парнаграфіі, прыняты нядаўна тамашнім сэймам, які складаецца пераважна з фундамэнталістаў-каталікоў. Ах, які гэта быў закон – не закон, а барбарыска! Запаў на мяккае порна – атрымай тры. Калі зачасалася пагартаць магазін з бізардам – вас апрануць у элегантны кліфт і этапіруюць на лесасеку гадкоў на пяць. Супэрзакон! Уявіце сабе, які шалёны попыт на клубнічку пачаўся б за Бугам, дзе, як сьцьвярджае брытанскі *Economist*, кожны другі час самец таемна *Penthouse* або *Playboy*. Ліквідаваць дэфіцыт эратычнай прэсы запраста маглі б нашы чаўнакі. Яны, зьеўшыя сабаку на кантрабандзе сьпірту й цыгарэт, у лічаныя хвіліны задавальнілі б усіх заклапочаных Болекаў і Лёлікаў. Дзякуй богу, эратычнай макулятуры ў нас навалам – *Это*, *Двое*, *СПИД-инфо*, нават *Cool Girl* пацягне – там час ад часу публікуюць фоткі тынэйджэраў у нэгліжэ. Тысячы людзей адразу нашлі б сябе працу, эканамічнае жыцьцё ў памежных абласьцях расквітнела быццам вычурныя прадпрыемствы ў сіліконавай даліне. Не адыходзячы ад касы можна было б наладзіць выраб порна і эротыцы. Гэта дадатковыя рабочыя месцы. Тысячы людзей з цэнтральнай Беларусі, сьціСьненыя структурнымі праблемамі, рванулі б на гэты эратычны Кландайк. Паступова ўвесь нацыянальны капітал асеў бы ў Берасьці й Горадні. Сталіца аўтаматычна пераносіцца ў Берасьце. Горад над Бугам перайменьваецца ў Нью-Менск, Менск лягічна ў Старую Крепасьць ці Горад-Герой Берасьце-над-Сьвіслаччу. Паступова Берасьце становіцца сусьветным, а потым і міжплянэтным цэнтрам эратычнага шоў-бізнэсу...

І вось прыйшоў хмуры Квасьнеўскі і разбурыў нам усе паветраныя замкі ●

**Зьміцер Саўка**

# Дзень Волі ў Аб'яднаных Эміратах



– Алё, алё, Рыгорыч, слухай,
Аб тым паведамілі мне,
Што нібы ў Менску завaруха
І БэТээРаў, як ў Чачне!



– Алё, алё, ня слухай дурняў!
Усё было наадварот:
Пасьля цяжкіх працоўных будняў
Адпачывае мой народ.



Суботай новы менскі мэр
Адзначыў ўгодкі БНР,
І ўсяму сьвету паказаў
Наш баявы патэнцыял.
Быў з Польшчы нейкі дэпутат,
Прыпёрся паглядзець парад,
А каб не аддавілі ног,
Яго падвез наш «варанок».
А ў астальным, Уладзімірыч,
Ўсё нармалёк, ўсё нармалёк!



– Алё, алё, Рыгорыч, мілы,
Аб тым паведамілі мне,
Што журналісту далі ў рыла
Арлы-спэцназаўцы твае!



– Алё, алё, якое глупства!
Як ім ня сорамна ілгаць!
Ўсіх журналістаў з дрэнным густам
Мы павучылі, як здымаць.



Каб той паляк пад танк ня ўлез,
Яго наш «варанок» падвез.
А Калпакоў усё здымаў
І толькі руху замінаў.
Ды пасьлізнуўся і ўпаў,
Відэакамэру зламаў.
Яму спэцназ мой дапамог:
Пад рукі адцягнулі ўбок.
А ў астальным, Уладзімірыч,
Ўсё нармалёк, ўсё нармалёк!



– Алё, алё, Масква на дроце.
Аб тым паведамілі мне,
Гуляюць чуткі у народзе,
Што шмат людзей сядзіць ў турме!



– Алё, алё, такая справа,
Як кажа кожны беларус,
Усё падстроіла Варшава,
Каб развалійся наш саюз!



Калі валяўся Калпакоў,
Шмат сабралося мінакоў.
Тут пачалі іх запрашаць,
Парадак каб не парушаць.
Іх пагрузілі ў грузавік,
Ды ў часьць адвезьлі на пікнік.
АМАП адцягваўся як мог,
Вясёлы выдаўся дзянёк!
А ў астальным, Уладзімірыч,
Ўсё нармалёк, ўсё нармалёк!

НАШ КАНДИДАТ В ПРЕЗИДЕНТЫ



ТОЛИК

Родился в 1937 году в совхозе «Дачнрев м.о». Обучался с 1945 по 1955 в спецпионерлагере #5 для умственно отсталых пионеров. По окончании учебы работал в пункте приема стеклотары при лагере до 1985 года. С 1985 года временно не работает и не имеет постоянного места жительства. Говорит, что знает, как помочь России выйти из кризиса и стать Державой. Любит мороженое и музыку "The Beatles".
ПОРА ОТНЯТЬ ВЛАСТЬ У ПОЛИТИКОВ И ОТДАТЬ НОРМАЛЬНЫМ РУССКИМ ЛЮДЯМ!
НЕ ГОЛОСУЙ ЗА ПУТИНА! НЕ ГОЛОСУЙ ЗА ЗЮГАНОВА!
ГОЛОСУЙ ЗА ТОЛИКА!

ВНИМАНИЕ! Толика не внесли в избирательные бюллетени. Впиши его сам!

Лічба 13 для кандыдата ў прэзыдэнты Толіка аказалася скрайне нешчасьлівай. Ня гледзячы на народную падтрымку, яго не зарэгістраваў Цэнтарвыбаркам, пабілі хуліганы і забралі галасы....

# Палітыка брyднымі рукамі...

У п'янай цемры застыла матухна-Расея. Творчая інтэлігенцыя пасьля праменьчыку надзеі, зноў пагрузілася ў дэпрэсію. Паўсюдна простыя людзі на вуліцах і на працоўных месцах, каля станку і за куфлем чарніла пытаюцца адзін аднаго: «Чаму? Ну чаму ж Пуцін? Што гэтая свалата зрабіла з нашым Толікам? Чаму Толіка так і ня ўнесьлі ў выбарчы бюлетэнь, адмовілі адзінаму нармалёваму, сапраўды агульнанароднаму кандыдату ў прэзыдэнты ў ягоным канстыту-цыйным праве?»

Каляпс народнай сьвядомасьці зразумелы. Толькі Толік, і ніхто іншы, павінен быў стаць ля штурвалу Расейскай Фэдэрацыі, заваяваўшы пост прэзыдэнта краіны. З усёй стракатай кандыдацкай тусьні Толік – адзіны кандыдат, які мог бы ганарыцца сваёй адзінавантробнай сувязьзю з народам. Недарма ягоны жыцьцёвы шлях можна ахарактарызаваць лёзунгам «Як ува ўсіх!».

Толік нарадзіўся ў 1937 годзе. Вучыўся ў спэцпіянэрскім лягеры №5 для разумова хворых піянэраў. З 1955 па 1985 працаваў у Ордэна Леніна пункце прыёму шклотары Аўтазаводзкага раёну г.Масквы. Дзеці і жанчыны ў захапленьні ад Толіка, бо ён прагрэсіўны і любіць марожка ды THE BEATLES. Ужо ў 1985, прадчуваючы дэмакратычныя перамены, кідае працу і йдзе ў народ рыхтавацца да прэзыдэнцкіх выбараў 2000. З гэтага сама часу ня мае сталага месца жыхарства. Перадвыбарчую кампанію яму дапамаглі правесьці старыя блізкія да кандыдата сябры, што не па блату, а дзякуючы сваёй нястомнай працы выбіліся на кіруючыя пасады ў органах па прыёму шклотары. Хоць з прычыны перавышэньня колькасьці пададзеных подпісаў над колькасьцю жыхароў Расеі Цэнтарвыбаркам адмовіўся зарэгістраваць Толіка кандыдатам, але гэты нязначны аспэкт не замінаў ягонай папулярнасьці.

У адрозьненьні ад в.а. прэзыдэнта Пуціна, Толік не адмаўляўся ад перадвыбарчай самарэклямы. Яму няма было чаго хаваць ад сваіх корышаў, не было ў яго бездакорнай біяграфіі і ганебнага ГБ-шнага мінулага. Толік, у адрозьненьні ад іншых кандыдатаў, сапраўды ведае, як дапамагчы Радзіме.

Аднак ня проста быць змагаром за праўду. Пуцінскія іміджмэйкеры загадзя прадбачылі посьпех свайго галоўнага праціўніка. Акурат напярэдадні выбараў, пераапранутыя ў касьцюмы сьмярдзючых бамжоўалканаўтаў супрацоўнікі пуцінскага штабу напалі й жорстка зьбілі Толіка на піўнусе падчас ягонай сустрэчы з выбаршчыкамі. Нарэшце, былі падтасаваныя вынікі выбараў на карысьць галоўнага прэтэндэнта. Вось так, Толя...●

**Эла Памфілава**

ИЗБИРАТЕЛЬНЫЙ БЮЛЛЕТЕНЬ
ПО ВЫБОРАМ ПРЕЗИДЕНТА РОССИЙСКОЙ ФЕДЕРАЦИИ

Разъяснение порядка заполнения избирательного бюллетеня
Поставьте любой знак в пустом квадрате справа от фамилии одного из кандидатов на пост Президента РФ
Избирательный бюллетень, в котором любой знак поставлен более чем в одном квадрате, либо не поставлен ни в одном из них, считается НЕДЕЙСТВИТЕЛЬНЫМ.
Избирательный бюллетень, не заверенный подписями членов участковой комиссии и печатью, признается недействительным

| | | |
|---|---|---|
| ПУТИН Владимир Владимирович | Исполняющий обязанности Президента РФ | ☐ |
| ПУТИН Владимир Владимирович | Исполняющий обязанности Президента РФ | ☐ |
| ПУТИН Владимир Владимирович | Исполняющий обязанности Президента РФ | ☐ |
| ПУТИН Владимир Владимирович | Исполняющий обязанности Президента РФ | ☐ |
| ПУТИН Владимир Владимирович | Исполняющий обязанности Президента РФ | ☐ |
| ПУТИН Владимир Владимирович | Исполняющий обязанности Президента РФ | ☐ |

Такія вось бюлетэні дапамаглі расейцам зрабіць адзіна правільны й дэмакратычны выбар

*ЭкспЭрт*

## Што трэба кандыдату

Усяго праз год у нашай краіне адбудуцца новыя выбары Лукашэнкі. Як і ў дэмакратычнай Расеі, у нас будуць і іншыя кандыдаты. Грунтуючыся на багатым замежным досьведзе, каб ператварыць выбары ў сьвяточнае каляровае шоў, група экспэртаў зь інстытуту сацыяльнай анатоміі прапанавала наступныя парады для прэтэндэнта №1, каб напэўна разграміць сваіх супернікаў:

1. Каб упэўніць Захад у нашай дэмакратычнасьці, кожнаму з кандыдатаў у прэзыдэнты выдаць пад кантроль адзін зь дзяржаўных тэлеканалаў.
2. Кожны кандыдат павінен мець магчымасьць:
– пасадзіць у турму аднаго-двух высокапастаўленых карупцыянэраў;
– прафінансаваць будаўніцтва аднаго-двух палацаў Беларуска-Расейскага саюзу;
– прыняць у саюз зь Беларусьсю адну-дзьве дзяржавы зь нестабільным рэжымам.
3. Кожны кандыдат у прэзыдэнты павінен мець магчымасьць разьвязаць маленькую «пабеданосную» вайну (гл. досьвед Расеі і Амэрыкі) у адным з рэгіёнаў тэрытарыяльных дамаганьняў Беларусі: Віленшчына, Беласточчына, Смаленшчына, Чарнігаўшчына і да т.п. Рэгіёны павінны разьмяркоўвацца паміж кандыдатамі з дапамогай жараб'ёўкі.
4. Кожны кандыдат мае права на адзін заплянаваны замах на сваё жыцьцё падчас перадвыбарнай кампаніі.
5. Кожны кандыдат мусіць папоўніць свой лексыкон словамі кшталту «мачыць», «сарцір», «жывёліна», «казлы» і інш.
6. Кожны кандыдат мусіць мець магчымасьць браць урокі па катаньні на лыжах.

Гэтыя і іншыя меры, што распрацоўваюцца на гэты момант, павінны, на думку экспэртаў інстытуту сацыяльнай анатоміі, прывесьці да абраньня адзінага годнага прэзыдэнта, які будзе адпавядаць сусьветным дэмакратычным традыцыям.

# Выбарчыя жарсьці

Бязьвесна канулі ў лета абсурдныя ідэі пра тое, што перадвыбарная кампанія, павінна быць як мага каляровей, з масай неверагодных спэцэфэктаў і рацыянальна й дакладна асьвятляць погляды кандыдата. Прамым доказам гэтага можа быць унікальны кагнітыўна-статыстычны аналіз палітычнай рэкламы, які мы правялі падчас перадвыбарнай кампаніі на двух былых полюсах геапалітычнай сыстэмы: у Расеі і ЗША. Гэты аналіз выразна дэманструе, што лідэрам нацыі становіцца ня той, хто спрабуе нешта растлумачыць выбаршчыкам, а той, чыя рэкляма найбольш убогая, накшталт маляванага тэсту для фатальных алігафрэнаў. Напрыклад, зьвернемся да Інтэрнэту, дзе да гэтага часу вы можаце ўбачыць сайты расейскіх кандыдатаў.

Уваход на сайт Пуціна – прадказальна рызыкоўная справа, пры загрузцы ёсьць небясьпека заглючваньня вашага кампутару органамі дзяржбясьпекі. Сайт Зюганава згодна даўнім савецкім традыцыям немагчыма загрузіць. Сайт Цітова перапоўнены поўнай нудзяцінай і нагадвае газэты часоў застою: «Я й народ адзіныя. Куды я – туды й народ...» Сайт Тулеева расчараваў, бо замест зьвестак з шахтаў кішмя кішыць апошнімі зводкамі надвор'я й курсаў валют. Сайт Яўлінскага, паводле нашага аналізу, таксама атрымаў нізкую адзнаку па шкале пазытыўнай адстойнасьці. Хаця шматабяцальны надпіс на чыстым экране «Сайт скоро будет открыт» не напружвае перадвыбарнымі брэднямі з абстрактнымі абяцанкамі дабрабыту й заможнасьці краіны. І самай нізкай адзнакі паводле тае ж формулы дасягнуў сайт Умара Джабраілава, дзякуючы добрай тварнай якасьці кандыдата і ляканічнай, але недастаткова зразумелай для народу перадвыбарнай прграме зь дзесяці простых сказаў. Напрыклад, «все во что-нибудь верят»; «будущее за молодежью»; «женщин я уважаю» і г.д. Такім чынам, пасьля вышэйпералічанага шматступеневага аналізу ўдалося атрымаць прамую залежнасьць народнай любові да кандыдатаў ад ступені пазытыўнай адстойнасьці сайту (падрыхтавана сацыяльнадасьледчым цэнтрам «Вівісэктар»).

*Параўнаньне рэклямных сайтаў кандыдатаў у прэзыдэнты давала яўную наводку на будучага пераможца.*

Ступень пазытыўнай адстойнасьці сайту (СПА) – папулярнасьць кожнага з кандыдатаў (у натуральных лічбах):

| | |
|---|---|
| Джабраілаў | 1% |
| Цітоў | 2, 9% |
| Тулееў | 8% |
| Яўлінскі | 82% |
| Зюганаў | 95,41% |
| Пуцін | 99,8% |

Усталяваная залежнасьць яшчэ раз пацьвердзіла думку аб пяшчотнай схільнасьці расейскага народу да кібэр-аскетызму, квінтысэнцыяй якога акурат і зьяўляеца сайт новага прэзыдэнта РФ●

**Група навукоўцаў**

# Амэрыканскія горкі

*Будні прэзыдэнцкага маратону*












Каб у чытача склалася больш шырокая карціна адзначанай тэндэнцыі, дзеля параўнаньня зьвернемся яшчэ да адной, рэзка адрознай ад расейскай, перадвыбарнай кампаніі ў ЗША – прарадзіме дэмакратыі, якая таксама выдзяляецца паказчыкам найбольш высокага ўзроўню разьвіцьця рыначных дачыненьняў у заходнім грамадзтве. Тут выбары сталі паўнавартасным таварам, на які краіна здолела зарабіць не адзін мільярд даляраў. Падчас перадвыбарнай гонкі кандыдаты ня трацяцца дарма на нейкія ўлёткі, нікому не патрэбныя ў эпоху паўсюднага выкарыстаньня высокаякаснага шматфункцыянальнага бідэ.

Наадварот, замест таго, каб бяздумна транжырыць баксы на паліграфію, яны не саромеюцца залатаць дзіркі ў прыватным бюджэце масавым выпускам значкаў, кубкаў, сумак, адзеньня, гаджэтаў ды іншага шырпатрэбу з самарэклямай, якія асабліва добра раскупаюцца багатымі замежнымі турыстамі зь Японіі.

Асаблівы інтарэс выклікае бізнэс перадвыбарнымі значкамі, на якіх лепш за ўсіх здолела наварыцца рагатая кандыдатка ў сэнатары Хілары Клінтан, дзякуючы высокаму спажывецкаму попыту ў асяродзьдзі нью-ёрскіх прастытутак на ейны значак «You go, girls!» (што, між іншым, на слэнгу азначае «скачы ў ложак, кроха» ці кшталту таго).

Пакуль што перамагаюць і канкуруюць дзьве самыя адстойныя каштоўнасьці: сям'я й багаты тата, якія рэклямуюць Гор і Буш. Што менавіта аднаму з гэтых двух сумных выракаў і аддасьць перавагу масавы палітспажывец, можна асабліва не сумнявацца ●

**Моніка Левінскі**































# Дрэнныя хлопчыкі і дзяўчынкі

## Праўдзівая гісторыя пра тое, што вырастае зь непаслухмяных дзетак, якія не ядуць зранку кашы й ня хочуць слухаць сваіх тату і маму




RAF – гэта ня мініаўтобус зь Елабугі. РАФ – гэта сусьветнавядомая тэрарыстычная арганізацыя, адна з самых міфічных падзеяў 20 стагодзьдзя. Каб зразумець яе сутнасьць, трэба зазірнуць у гісторыю партызанкі. Яе аналы мы сустракаем яшчэ ў біблейскіх псальмах. Там нейкі прарок піша, што падчас паўстаньня Макабэяў у 166 да н.э. яўрэі-баевікі ладзілі свае базы ў гарах і лясах, адкуль атакавалі рымлянаў. Потым была гішпанская герылья супраць Напалеона, паўстаньне Панчо Вільі і шмат яшчэ чаго. З 18 стагодзьдзя, калі армія стала канкрэтна залежаць ад паставак з тылу, роля партызанкі значна ўзрасла. Добры прыклад – гісторыя брытанскага агента Лоўрэнса. У 1915г. ён замаладзіў плямёны бедуінаў атакаваць тылавыя камунікацыі туркаў. У 1918 ужо самім брытанцам прыйшлося даведацца, што такое герылья. «Лятучыя калёны» IPA прымусілі карону прызнаць ірляндзкі сувэрэнітэт. Кампанія IPA стала паваротным пунктам у гісторыі партызанкі. Раней герылья была элемэнтам стратэгіі рэгулярнай арміі, а герыльерасы разглядаліся як дапаможныя часткі. Цяпер партызанка ператварылася ў інструмэнт прыніжаных народаў за свае правы, і як сьлед прапіталася левай дактрынай. Верагодна, першым тэарэтыкам герыльі быў Мао Дзэ Дун, які вывеў партызанскую тактыку ў афарызме: «Вораг наступае – мы адступаем. Вораг спыняецца – мы атакуем. Вораг адступае – мы наступаем». Значны ўнёсак у канцэпцыю партызанкі зрабілі віетнамскія партызаны дзядулі Хо, якія ў 60-ыя зрабілі апакаліпсіс амэрыканскім інтэрвэнтам (гл. фільм «Узвод»). Пасьля таго як у 1959 Фідэль Кастра і Чэ Гевара пахерылі дыктатуру Батыста, пачалася павальная мода на партызанку. Сам камандантэ Чэ паспрабаваў быў паўтарыць кубінскі досьвед у Заіры, а потым у Балівіі. У Балівіі ягоны атрад прыблудзіўся, акружаны спэцкамандай ЦРУ, а сам Чэ быў расстраляны і стаў героем-пакутнікам для эўрапейскай моладзі. Правал балівійскай эпапэі Чэ выклікаў шок сярод партызанскіх стратэгаў. Трэба было шукаць новыя шляхі барацьбы. Іх вынаходнікам быў Карлас Марыгела.

## Хросны бацька

«Доўг рэвалюцыянэра – заўсёды рабіць рэвалюцыю». Гэтак пачынаецца кніга Марыгелы «Падручнік гарадзкога партызана». Прынцыпы герыльі, выкладзеныя Марыгелам адрозьніваліся ад архаічных дактрынаў. Галоўнай інавацыяй стала думка аб тым, што барацьба павінна быць перанесеная зь вёскі ў горад. Ягоныя папярэднікі, напрыклад, Чэ Гевара – фанат тэорыі «партызанскага ачагу», лічыў, што герылья мае шансы выключна ва ўмовах сельскай мясцовасьці. Марыгела наадварот кажа, што партызанка можа быць пасьпяховай і ў асфальтавых джунглях, дзе герыльерасы могуць нечакана атакаваць ворага і зьнікаць у акіяне ананімнага натоўпу. Для Марыгелы было відавочна, што барацьба ў вёсцы нічога не вырашае. Жыцьцёва важныя аб'екты знаходзяцца ў індустрыяльных мэтраполіях, таму тут дэмаралізаваць ворага куды лягчэй. Гэта, згодна аўтару падручніку, робіць герылью флексыбільнай і мінімалізуе рызыку буйных правалаў. Наступныя рэцэпты посьпеху герыльі паводле Марыгелы – добрая вайсковая падрыхтоўка, веданьне мясцовасьці і дэцэнтралізацыя супраціву. Апошняя частка падручніка называецца «Падтрымка сярод народу». «Нават калі ў герыльераса ёсьць зброя, трэнінг і веды – без народнай падтрымкі ён – мярцьвяк». Сам Марыгела хутка загінуў ад рук паліцыі. Аднак ягоная кніга пережыла аўтара. Яна нелегальна выдавалася і канспэктавалася новымі левымі па ўсім сьвеце, у тым ліку ў ФРГ.

## Першая генэрацыя

Тут, у Нямеччыне, як паўсюль у Эўропе ў 60-ыя гады, назіраўся ўсьплеск левага студэнцкага руху, для якога акрамя згаданага захапленьня Чэ Геварам былі характэрныя недавер да Масквы і антыфашыстоўскі матыў. Тады ўсе левыя праводзілі час у эсхаталягічным чаканьні прышэсьця зь нетраў Сыстэмы новага фашызму. Гэта быў не маразм. Амаль увесь дзяржаўны апарат ФРГ складалі экс-нацы. Гэта давала падставу лічыць ФРГ тэарытычна фашызоіднай краінай... Акрамя таго, нямецкія новыя левыя лічылі сябе байцамі руху краінаў трэцяга сьвету. Гэта садзейнічала крышталізацыі такога кампанэнту тэрарыстычнай сьвядомасьці як антыамэрыканізм.

Фігурай нумар адзін у нямецкім тэрарызьме была, безумоўна, Ульрыка Майнхоф. Яна нарадзілася ў 1934 у Ене ў сям'і інтэлектуалаў. Калі яна была студэнткай, актыўна ўдзельнічала ў антываенных пратэстах. Атрымаўшы дыплём, выйшла замуж за рэдактара часопісу *Konkret*. Гэты часопіс лічыўся галоўным рупарам Руху Сацыялістычных Студэнтаў (SDS). Раней SDS была часткай сацыял-дэмакратычнай партыі, аднак потым перайшла пад кантроль новых левых. Працуючы на старонках *Konkret*, Майнхоф стала адной зь вядучых журналістак. Акрамя таго, у яе нарадзілася двое дзяўчынак-двайняшак. Усё гэта – працу, сям'ю і кар'еру – яна кіне дзеля тэрору.

Другой фігурай у РАФ была Гудрун Енэслін (нар. 1940). Яна

## ДавЕдка



**Карлас Марыгела** (1911 – 1969). Быў студэнтам палітэхнікі, калі ў 1929 пачаўся сусьветны эканамічны крызыс. Уражаны ягонымі маштабамі Марыгела стаў сябрам кампартыі Бразыліі. У 1935 браў удзел у камуністычным паўстаньні, што было жорстка падаўленае хунтай. У 30-40-ыя дасягнуў пасады сябра ЦК, а падчас палітычнай адлігі ў 1949 нават быў абраны дэпутатам бразыльскага Кангрэсу. Неўзабаве, расчараваны парлямэнтарызмам, выступіў з заявай, што толькі мілітарным шляхам можна пакончыць зь існуючым рэжымам. Гэты дэмарш прывёў яго ў апазыцыю да кіраўніцтва партыі. Пасьля ваеннага перавароту маршала Бланка ў 1964 Марыгела парывае з кампартыяй, стварае групоўку Акцыя Нацыянальнага Вызваленьня (ANL) і сыходзіць у падпольле.

ANL праводзіць сэрыю тэрарыстычных акцыяў, самай гучнай зь якіх быў кіднэпінг амэрыканскага амбасадара. Паколькі ЗША былі «дахам» дыктатуры Бланка і кантралявалі 90% бразыльскай эканомікі, урад адразу пагадзіўся выканаць усе патрабаваньні партызанаў: вызваліць палітычных вязьняў і апублікаваць «Падручнік гарадзкога партызана» ў афіцыйнай прэсе. У 1969 паліцыя выйшла на сьлед Марыгелы. Ён быў блякіяваны ў адным з дамоў Сан-Паўла і загінуў падчас перастрэлкі.

была, дарэчы, прамым нашчадкам Гегеля. Спачатку яна была сябрам СДП, аднак у 1966 адбылася вырашальная падзея для нямецкай моладзі: эсдэкі ўвайшлі ў кааліцыю з кансэрватыўным ХДС, якіх новыя левыя лічылі за фашыкаў. У вынік кантакты з СДП былі разарваныя, а ў краіне зьявілася студэнцкая «пазапарлямэнцская апазыцыя» – АПО. Гудрун таксама выйшла з СДП і стала тусавацца з SDS. Наступны кадар – Андрэас Баадэр, якога за яго авантурызм, прыгожую пысу і любоў да цёлак і матацыклаў называлі Марлон Брандо. Ён фармальна лічыўся студэнтам у Бэрлінскім Унівэры, але на вучобу забіў і галоўным чынам жыў як альфонс у сваіх сяброўак.

Усё пачалося з прыезду ў Заходні Бэрлін іранскага шаха, якога ўся грамадзкасьць трымала за дыктатара. Напярэдадні ў горадзе адбылася дэманстрацыя з патасоўкай паміж студэнтамі і паліцыяй. Падчас яе коп наўмысна стрэліў у сьпіну студэнту Бэна Онэзборгу. Хлопец загінуў. Гэта выклікала сапраўдны фурор. Сярод абураных заяваў ніхто не надаў ўвагі выступу Гудрун: «Гэта фашысцкая краіна. Гэта генэрацыя Асьвенціма і размаўляць зь ім можна толькі мовай гвалту». Яна скарышылася з Баадэрам, якому прыйшла ў галаву ідэя зрабіць у знак пратэсту нейкую акцыю – ну, хаця б падпаліць круты ўнівэрмаг у Франкфурце. Задумана – зроблена. Унівэрмаг згарэў, як бэнгальскі агонь. І адразу пасьля акцыі тандэм зажопіла паліцыя (выдаў стукач). Па суду іх адпусьцілі часова пад заклад.

Між тым, праз два тыдні нейкі нэанацыст страляў і цяжка параніў Рудзі Дучке, лідэра SDS. Гэтыя стрэлы былі шокам для студэнтаў-пацыфістаў. Нядзіўна, што калі трэба было вяртацца ў суд, нашы героі на ўсё забілі болт. Аднак хутка падчас праверкі дакумэнтаў Баадэра арыштавалі і ўпеклі за краты.

14 мая 1970 нарадзілася РАФ (Die Rote Armee Fraction – Фракцыя Чырвонай Арміі). У гэты дзень Майнхоф і адвакат Малер арганізавалі Баадэру пабег. Пасьля гэтага ўся тусоўка змылася ў Ліван на курсы да палестынскіх баевікоў. Потым вярнуліся ў ФРГ, дзе праз год іх зноў з дуру павязалі. Паліцыя рапартавала, што з адмарозкамі пакончана.

## Другая генэрацыя

Аднак адначасова на шлях барацьбы сталі тусоўкі анархаў. Яны стварылі г.зв. «Рух 2 чэрвеня». Калі РАФ былі высакалобымі інтэлектуаламі, то «Рух 2 чэрвеня» – багема і гопнікі. Кропка адліку – 1966, калі ў Бэрлін прыехалі Rolling Stones. Кошты на квіткі былі шалёныя. Незадаволеная моладзь прарвала ачапленьне кантралёраў і прабіліся ў залю. Пасьля ўдзельнікі гэтай патасоўкі стусаваліся й пачалі рэгулярна хадзіць на піва. Паколькі мачыцца з паліцыяй ім спадабалася, пэрсанажы захапіліся палітыкай і дайшлі да тэрору. Прыгожыя акцыі былі часткай іхняга іміджу. Напрыклад, падчас «эксу» ў адным з банкаў яны частавалі клеркаў кексамі, паказвалі фокусы з расьпілаваньнем жанчыны. Гэта былі вілы!

У 1974 памёр ад галадоўкі ў турме сыпатызант РАФ Хогер Майнц. На наступны дзень старшыня суду Зах. Бэрліну фон Дрэкман адзначаў імяніны. У самы разгар сьвята ў дзьверы пазванілі. На парозе стаялі дзяўчынкі, якія працягнулі Дрэкману кветкі, а потым дасталі аўтаматы і зрашацілі яго. Гэта была помста «Руху 2 чэрвеня» за сьмерць Майнца.

Празь нейкі час сябры руху выкралі сярод белага дню лідэра бэрлінскага CDU Лорэнца і абмянялі яго на сямёх арыштаваных сябраў. У тым сама годзе захопленая амбасада ФРГ у Стакгольму. Нямецкая дзяржава была ў шоку. Аднак гэта былі толькі кветачкі.

Нябачна для ўладаў на сьвет нарадзілася другая генэрацыя РАФ, што складалася з адвакатаў і студэнтаў-псыхолягаў. Гэты прызыў паказаў сябе ў поўнай красе ў 1977, калі правёў сэрыю акцыяў: быў пакараны Генпракурор ФРГ, забіты прэзыдэнт «Дрэздэн-Банку» Монт і, нарэшце, скрадзены і расстраляны старшыня саюзу прамыслоўцаў Шляйкер. Лепшай ахвяры, чым Шляйкер прыдумаць было немагчыма. Шляйхер быў адказны за працу канцлягераў у Чэхіі падчас другой сусьветнай. Нацыст быў скрадзены групай студэнтаў з 8 чалавек, пры гэтым ягоныя целаахоўнікі нават пальцам не пасьпелі паварушыць.

9 мая 1976г. у сваёй камэры была знойдзеная дохлая Ульрыка Майнхоф. У заключэньні дзяржаўнай камісіі – самазабойства, ніхто не паверыў. У адказ палестынцы захапілі самалёт, угналі яго ў Магадзіша і патрабавалі вызваліць Баадэра. Зьмяшаная ізраільска-нямецкая каманда штурмуе ляйнэр «Люфтганзы», а на наступны дзень у турме Штаймхайм было знойдзенае мёртвае цела Баадэра. Пасьля гэтага ўся Нямеччына была пастаўленая на вушы. Пачалася антылевая гістэрыя, г.зв. «Нямецкая восень». 10 тысячаў чалавек былі затрыманыя, уведзеныя забароны на прафэсіі і г.д.

## Трэцяя і апошняя?

Аднак гісторыя РАФ і «Руху 2 чэрвеня» на гэтым ня скончылася. Прыблізна раз на год рафаўцы рабілі нейкую вылазку: напрыклад, узарвуць казармы войскаў NATO або кокнуць старшыню «Дойчэ Банку». У пачатку 80-ых гадоў у Нямеччыне нарадзіўся новы маладзёвы рух хаўсбэзэтцэраў. Хаўсбэзэтц (або сквотынг) – гэта захоп моладзьдзю пустога дому пад свае культурныя і палітычныя праекты. Шмат хто з тэрарыстаў, уключаючы ўвесь «Рух 2 чэрвеня», склалі зброю і захапіліся новымі фенькамі. Гэта было галоўным фактарам закату мілітарнай фракцыі. Потым наступіў крах СССР і часовая стагнацыя левай ідэі. Таму ў 1992 рафаўцы заявілі, што ў наступства зьмены палітычнага клімату яны адмаўляюцца ад актаў індывідуальнага тэрору, а каб усім давесьці сваю сілу, узарвалі сьвежапабудаваную турму для нелегалаў ў Дармштаце. Нарэшце, 20.04.99 нямецкае агенцтва атрымала факс-камюнікэ аб тым, што РАФ спыняе ўзброеную барацьбу. Што гэта, жарт, антыпаліцэйскі трюк або праўда? Час пакажа ●

**Алемахт Дэнрэтэн**

# Прыкольная герылья

## *Замест бомб і аўтаматаў – гіронія, правакацыя й клоўнскія насы. «Змагайся і адпачывай!»*

На пачатку 80-ых гадоў Заходнюю Нямеччыну ліхаманіла ад сквотэрскага руху. Па ўсёй краіне кацілася хваля самавольнага захопу пустых дамоў – сквотынгу. Сквотэры – як правіла, студэнты, панкі, анархісты – захоплівалі пустыя дамы, рамантавалі іх і стваралі там явачным парадкам жыльлёвыя каапэратывы, рок-клюбы, тэатры і г.д. Сэнс руху заключаўся ў тым, каб ствараць вызваленыя ад сыстэмы тэрыторыі і ўтвараць аўтаномныя цэнтры культуры, якія ўяўляліся ў нейкім сэнсе пляцдармамі антыкапіталістычнай рэвалюцыі.

Сыстэма абаранялася. Па наводцы гаспадароў будынкаў паліцыя спрабавала ачысьціць сквоты ад «антысацыяльных элемэнтаў». У адказ на такое шайзэ з вокнаў захопленых дамоў у паліцыю ляцелі каменьні, на вуліцах выраслі барыкады, цэлыя кварталы пераходзілі пад кантроль узбунтаванай моладзі.

Асноўным пятачком разборак сквотэраў і буленаў (гэтак на слэнгу нямецкіх тусоўшчыкаў клічуць копаў) стаў Заходні Бэрлін, а дакладней неблагапалучны раён Кройцбэрг. Тут у 1981 за раз было акупавана 168 дамоў (!). Кройцбэрг ператварыўся ў «Чырвоны раён».

Аднойчы неяк булены зачысьцілі адзін сквот, арыставаўшы пры гэтым каля 10 чалавек. Чутка аб нахабстве паліцаеў абляцела Кройцбэрг у імгненьне вока. Адразу на вуліцу выйшла каля 2000 панкаў-адмарозкаў, якія прарваліся на Кудам – фэшэнэбэльны цэнтар гораду – і пачыкалі вітрыны маднявых буцікаў камянямі і кактэйлямі молатава. Бэзэтцрат – каардынацыйны орган сквотэраў, высунуў ультыматум: «вызваліць усіх затрыманых інакш на Новы год у Бэрліне будуць гарэць ня толькі навагоднія ялінкі».

І вось на фоне гэтых гарачых падзеяў была праведзеная беспрэцэдэнтная дагэтуль акцыя, якая здольная паканкураваць зь легендарным рафаўскім падпалам. У супэрмаркеце Карштат прама ў гандлёвую залю нехта выпусьціў соцень пяць мышай. Пачалася агульная паніка і хаос, вынікам якога наведнікі стырылі тавараў на 200 тысячаў DM. На наступны дзень рэдакцыі гарадзкіх газэт атрымалі камюнікэ, падпісанае Рэўваенсаветам Фракцыі Мышынай Арміяй ( MAF, па аналёгіі з РАФ). «Нам, пралетарскім мышам, даўно



Байцы з культурна-тэрарыстычнай арганізацыі TUWAT праводзяць агітацыю

сьмярдзіць бюргерскае спажывецтва і таму мы бярэм на сябе адказнасьць за акцыю ў Карштаце».

Гэтак пачалася шпасгерылья, што можна перакласьці як «прыкольная партызанка» – барацьба з сыстэмай з дапамогай гіроніі, зьдзеку й правакацыі. Яе абвесьціла дзяржаве маленькая кагорта артыстаў TUWAT (што ў перакладзе з бэрлінскага слэнгу значыць «рабі што-небудзь» – у адказ на сакрамэнтальнае інтэлігенцкае «Што рабіць?»), у арсэнале якіх быў цэлы гербарый прыкольных акцыяў:

а) Вулічныя тэатральныя пэрфомансы-правакацыі.

Напрыклад, у мэтро разыгрывалася сцэна канфлікту паміж нахабным кантралёрам і «зайцам», якая паступова пераходзіла ў бойку. Такім чынам акторы правакавалі пасажыраў падтрымліваць безьбілетнікаў. Калі пасьля гэтага ў вагон заходзіў сапраўдны кантроль, публіка выкідвала яго на хер.

б) Фальшывыя газэты і друкаваная прадукцыя кшталту ліпавых флаераў на канцэрты вядомых груп або купоны, што быццам даюць скідку пры набыцьці тавараў у буйных супэрмаркетах.

в) Графіці і выпраўленьне рэклямных афішаў. Напрыклад, у рэклямным слогане «Berlin grusst seine gaste!» («Бэрлін вітае сваіх гасьцей!») слова «gaste» заклейвалася словам knaste. Па-намецку knaste – турмы.

Шпасгерылья па-сутнасьці рабіла спробы разьвеяць міт аб тым, што гвалт і самахвяраваньне – адзіны сродак супраціву сыстэме.

Гарачым часам для шпасгерыльерасаў стаў люты 1981, калі двое ўдзельнікаў сквотэрскага руху атрымалі па тры гады за нелегальны захоп будынкаў. Наступныя два месяцы ўвесь горад жыў разборкамі паміж паліцыяй і хаўсбэзэтцэрамі. Не засталіся ў баку й нашыя кадры. Вось толькі некаторыя зь іх:

Уначы былі завараныя дзьверы 40 банкаў.

У залю паседжаньня гарадзкога сэнату падкінуты ванючы сыр. Паседжаньне перанесенае.

Паўсотні чувакоў у клоўнскіх касьцюмах уварваліся на сцэну балетнага тэатру падчас імпрэзы і сабралі сярод балерын подпісы пад пэтыцыяй за вызваленьне засуджаных сквотэраў.

Падчас візыту амэрыканскага міністра абароны Хайга арганізаваная пранатаўская дэманстрацыя пад лёзунгамі «Атамная вайна? Чаму не!», «Далоў тэрор пацыфістаў!» і ў гэткім духу. У час прамога эфіру на ТВ ідыёцкай віктарыны «Кола вэстгоцкай гісторыі» паднялі дэбош, скандуючы антыпаліцэйскія лёзунгі. Карцінка пайшла на экраны.

Надыбалі невядома дзе грузавік са сьвежым навозам і вывалілі яго каля ўваходу ў цэнтральную біржу. (Такі ж пэрфоманс каля прэзыдэнцыі ў нас змайстрачыў вядомы мастак Пушкін)

Пракраліся на студыю раённага радыё і абвесьцілі ў эфір: «Увага ўсім грамадзянам. Паліцыя пачынае газавую атаку, каб зачысьціць сквот. Усім надзець супрацьгазы!». Сярод бюргераў пачалася паніка.

Нейкаму хмыру можа падацца, што гэта ўсё пустыя забавы інфантыльных адмарозкаў. Аднак менавіта сьмех і зьдзек зь дзяржаўных інстытутаў рабіў сваю чорную дэструктыўную справу, уносячы смуту ў галовы чыноўнікаў і заплыўшых тлушчам бюргераў. Ідыёцкая партызанка трывала да жніўня 1982. Прыблізна ў гэты час затраўленая дзяржава махнула рукой і пачала шукаць юрыдычныя хады для нармалізацыі дачыненьняў з хаўсбэзэтцамі. Прыкол перамог. Барацьба трывае! ●

**Дэркампф Гейтвайтэр**





# Міс Беларусь: оргія пэдафіліі. Шоў мусіць працягвацца?



Калі змыць дарагі французскі макіяж з твару пераможцы Міс Беларусь-2000, погляду адкрываецца кволае цела трынаццацігадовага падлетка

Мінулы нядаўна конкурс прыгажосьці «Міс Беларусь-2000» ніяк не паўплываў на кан'юнктуру айчыннага рынку вытворчасьці відэа-«клубнічкі». Такое ўражаньне, што ўся бадзяга з конкурсам была разьведзеная дзеля заходніх эмісараў, якія абіралі патэнцыйных актрысак з Усходу для здымкаў малабюджэтных фільмаў для высокапастаўленых пэдафілаў. Менавіта такая вэрсія выглядае найбольш праўдападобнай, калі пільна ўглядаесься ў твары ўдзельніц «Міс Беларусь-2000». Заяўлена, што большасьці зь місак-прэтэндэнтак па 16-17 гадоў (ужо чытай – распусьніцтва малалетніх). Аднак нават няўзброеным вокам было бачна, што калі змыць з паненак наварочаны макіяж, старэйшай зь іх у лепшым выпадку – гадкоў трынаццаць.

Варта зазначыць кантраст паміж дзевачкамі-трасьцінačкамі і вядучай конкурсу Аленай Сьпірыдовіч, якую ня выратаваў двухслаёвы грым. Зорка БТ, вядомая як рэклямны банэр «БелАвія», канчаткова зарэкамэндавала сябе як бальзакаўская дзяўчынка. Усякі раз, калі абвяшчаўся выхад паненак у бялізьне фірмы «Мілавіца», Сьпірыдовіч, нібы мадам з парыскага бардэлю, паведамляла, што «гэта самы хвалявальны для мужчынаў момант», што дзяўчыны прадэманструюць «вытанчаны імпэт»(?) і «пяшчотны адрэналін»(!). «Адсутнасьць адзеньня надае нам, жанчынам, нейкую трапяткую вытанчанасьць», – паведаміла зорка, не забыўшы пры гэтым апрануць на сябе світэр з хамутом і спадніцу да пятак. Падлеткі на сцэне прадэманстравалі свае кволыя несфармаваныя цельцы, аддалена нагадваючы сайты paedophilia ў Інтэрнэце.

Далей на сцэну выскачыў рокер і проста нармальны мужык Ухцінскі. Роля Ўхцінскага ва ўсёй гэтай бадзязе не зусім зразумелая. Альбо ён толькі дэкарацыя, альбо трымальнік кантрольнага пакету акцыяў на далейшы лёс фіналістак конкурсу «Міс Беларусь-2000». У любым выпадку, замежныя пэдафілы ня змогуць заграбастаць усіх беларусачак.

З трынаццаці кандыдатак толькі пяцёра пойдуць у замежныя



лапішчы. Астатнім знойдзецца праца ў айчынных агенствах па настаўленьню рогаў гэтак званаму істэблішмэнту (не дарма ж сама карона Міс Беларусь недвухсэнсоўна нагадвала «хазяйства» сахатага).

Уладальніцай «Кароны» сталася Ася Стычынская. Гэта ня цёця Ася з рэклямы мыйнага сродку «АСЕ». Ася жыве ў Магілёве, марыць паступіць у Магілёўскі пэдун на аддзяленьне дашкольнага выхаваньня ●

**Мар'ян Глядзелка.**

# ТЛУШЧ – НАМ!



НОМ – гэта Нефармальнае аб'яднаньне моладзі (тых, каму за 40)

Доўгачаканы ўсімі менскімі аматарамі сала канцэрт гурта Н.А.М.-ТЛУШЧ адбыўся 1-2 красавіка ў сумна вядомым сваімі поснымі традыцыямі «А-клюбе». Усім інтэлектуалам даўно вядома, што тлушч – гэта неабходная складовая частка нашай ежы. Таму ня дзіўна, што менавіта ён стаў галоўным прадуктам творчасьці і жыцьцядзейнасьці арыгінальнага калектыву зь Піцеру. У адрозьненьні ад прагорклай прадукцыі менскіх рок-гуртоў, хлопцы прывезьлі да нас расейскі тлушч высокай якасьці. Шоў пачалося з прагляду кінастужкі «Жбан дурня». Сюжэт гэтай стужкі, зьнятай у традыцыях нэа-рэалізму, крануў мяне да глыбіні душы: дэбільны хлопчык Саша нясе жбан з «рыбьим жиром» свайму роднаму дзядзьку Дзіму, які бавіць час, падкладваючы на чыгуначныя рэйкі балты ды гайкі, каб цягнік іх раскатаў сваімі коламі, і тое, што атрымаецца можна было б ужываць у хатняй гаспадарцы. У дарозе хлопчык сустракае маргінала – дзядзьку Валеру, які намагаецца завалодаць ягоным жбанам. Але пляны злодзея правальваюцца, бо нават дурань разумее карыснасьць «рыбьего жира». Усе гледачы плакалі, калі на сцэне зьявіўся Н.А.М.-ТЛУШЧ і пачаўся канцэрт. У сьпевах Н.А.М. скразіла нянавісьць да амэрыканскай «кока-колы», якая, як вядома, расшчапляе тлушч, да гамбургераў з сынтэтычным мясам і іншых абястлушчаных прадуктаў. А сьпевы, якія калярыйныя сьпевы! Чаго толькі каштуе такі хіт як «Расейскі мядзьведзь, узьніміся!» ці «Шчэй, тлустых шчэй!» Карацей кажучы, падчас шоў Н.А.М. фанаты абястлушчанага масла «Рама» добра адсмоктвалі лапу ў расейскага мядзьведзя-шатуна, які зьнянацку заблукаў у наш прывучаны да эрзац-прадуктаў горад. Не, спадары вэгетарыянцы, з гэтага дню – аніякай «Рамы», толькі сапраўдны вясковы шпік! Спадзяемся, што гэта не апошні візыт гуртоў такога ўзроўню ў Менск. Хочацца верыць, што хутка для беларусаў стануць бліжэй тлустыя расейскія даляглядды ●

**Іван Памідораў**

# 1998 год паганства

## Прэзэнтацыя юбілейнай бібліі ідалапаклоньнікаў

## *Крыўя* вылілася ў шабаш канібалаў

***Новая вэрсія Сьвятога Пісаньня для паганцаў сутыкнула між собку адэптаў Перуна, Ярылы, Вялеса й Сварога.***




**28** сакавіка «Беларускі Калегіюм» ладзіў прэзэнтацыю трэцяга нумару культавага сярод беларускіх паганцаў часопісу *Крыўя*. Нумар, праўда, быў датаваны 1998 годам (як потым высьветлілася, паганцы вядуць лік ад дня нараджэньня свайго вярхоўнага жраца Крывэ-Крывайціса). Аднак злыя языкі кажуць, што грант на гэтую брашуру пару гадоў таму спусьцілі на нібыта «рэканструкцыю менскага капішча, зьнішчанага царскімі жандарамі падчас расейска-японскай вайны».

У гэтым годзе «крывіцкім» грантасосам, відаць, усё ж такі пашчасьціла ачмурыць чарговага мудакаватага Сораса на прадмет наяўнасьці ў беларусаў «балцкага субстрату» й «адмысловае, дахрысьціянскае балцка-беларускае архаікі», што дагэтуль захавалася на гасьцінных беларускіх землях. У выніку прэзэнтацыя атрымалася салідная: з вогнішчамі, ахвярапрынашэньнямі, шашлыкамі. Кроплі хрысьціянскага тлушчу сьцякалі акурат на паганскую вопратку, па падлозе расплываліся гіганцкія крывавыя лужыны, у паветры вітаў устойлівы пах смажанага чалавечага мяса. Пафюрэрску харызматычны Мікус зь імпэтам угрызаўся ў эўраазіяцкі праваслаўны чэрап, ягоны адданы целаахоўнік Дзярманіс мусоліў сіянісцкі копчык. Вярхоўны жрэц (у міру галоўны рэдактар *Крыўя*) Сяржук Санько экстатычна выгукваў рытуальныя магічныя замаўляньні й мэтадычна падкідваў у вогнішча ерэтычны *Антыфашык*.

У самым разгары паганскай вакханаліі ў залі «Калегіюму» неўзабаве намаляваўся галоўрэд канкуруючага з *Крыўем* фанзіну *Сотвар*, франтмэн гурту ЗЬНІЧ Алесь Таболіч. «Язычнік – я!» – жудасным вантробным голасам прамовіў ён і працягнуў сваю заграбастую валасатую лапу да мікусавага чэрапу. «Інфантыліст! Не аддам – маё!» – прабляяў у адказ квазіфюрэр і з дрэнна прыхаванай заклапочанасьцю паглядзеў у бок целаахоўніка. Дзярманіс адрэагаваў у момант: рэшткі копчыку паляцелі ў няголены, апухлы пасьля ўчорашняга маладафронтаўскага паседжаньня твар Таболіча. Ззаду на гаротнага «зьніча» наваліліся мастацкі рэдактар варожага *Крыўя* Тодар Кашкурэвіч і наваполацкі чараўнік Уладзімер Лобач...

Ужо праз гадзіну «крывічы» смакавалі чарговую порцыю духмянага смажанага сала ●

**Усяслаў Чарадзей**



*НепаЯткі*

# Як кажуць, «Клімаў Клімаву – розьніца...»

Навіна, што дэпутат-«хапуга» Клімаў сеў на шэсьць год, не зьдзівіла нікога з бывалых палітыканаў і журналюг, але выклікала нечакана вялікі рэзананс сярод звычайна апалітычных заўзятараў «Трубы», «Альтэрнатывы» і «Рэактара». Пачуўшы знаёмае прозьвішча, яны ня сталі глыбока ўнікаць у праблему.

*Музыкальная газета* разьляталася ў шапіках, як гарачыя піражкі. У кулюарах актыўна абмяркоўваліся чуткі, за што ж пасадзілі патлатага рэдактара музыкалкі?

«Каго чапаюць, сукі?!» – абурана раўлі па кутках мэталісты і рэпэры. «Такога чувака – і на шэсьць год?! Ды мы ім пакажам!..» Пакрыўджаныя ім у розныя часы музыканты яхідна паціралі рукі, смакуючы падрабязнасьці суду. «А вы чулі, што ў яго знайшлі 9000 левых КИРПИЧЕЙ? Контрафактная прадукцыя...» – «Хрэна, гэта яму рок-каранацыю прыпомнілі. Я б такіх увогуле страляў!» Дыскусія разьвівалася прадуктыўна. І вось, калі шараговая моладзь ужо была гатовая мачыць мянтоў ці на радасьцях залілася півам па самыя вочы, раптам аб'явіўся сам... Алег Клімаў. Зразумела ж, без бранзалетаў і канвою йшоў сабе на ўсе чатыры бакі.

Вось так ізноў аблажаліся нашыя рокеры. Падлеткаў, якія чытаюць адно толькі *МГ* і ня ловяць розьніцы між махляром-дэпутатам і чэсным журналістам, яшчэ можна зразумець. А вось музыкам, якія на словах выяўляюць сваю актыўную грамадзкую пазыцыю, а насамрэч ня бачаць далей сваёй шклянкі – мусіць быць сорамна.

## Афіша

7 КРАСАВІКА ў «А-клюбе» адбудзецца прэзэнтацыя новага альтэрнатыўнага музычнага часопісу КЛЁК2 (ex M-light). У праграме з 19.00 да 22.30: Гурты DRUM XTC, НАИЗНАНКУ (Берасьце, rock-in-opposition). Танцпол – industrial, hard core, gothic, dub, experimental electronics, punk folk, jazz core. Кошт квіткоў 1500, бяз флаеру – 2000. Даведкі праз тэл. 2236043, 2708066.




Часопіс можна набыць у студыі «Аліса» (каля Ін'язу) і краме D-Shop (вул. Прытыцкага, 40) Кантакт: п/с 68, 220035 Менск.

19 КРАСАВІКА ў канцэртнай залі «Мінск» адбудзецца прэзэнтацыя альбому «ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ: НОВАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА» з удзелам гуртоў NRM, КРАМА, УЛІС, НОВАЕ НЕБА, КРЫВІ, НЕЙРОДЮБЕЛЬ, ТРОЙЦА і іншае. Кошт квіткоў ад 1500 да 3000 руб. Даведкі праз тэл. 227-51-09



# Аблава

## У барацьбе супраць пірацтва за аўтарскія правы мы рызыкуем ператварыцца ў сьляпых П'ю



*Іх вышуквае аддзел па барацьбе з аўдыё- і відэа-пірацтвам. Дапамажы працы Дзярж-рэгістру*

З 20-ых чыслаў сакавіку групы хуткага рэагаваньня АБЭЗ і КДБ пачалі з поўначы й поўдня зачыстку камкоў, рынкаў, крамаў на рэч контрафактнай прадукцыі. З паліцаў канфіскуюцца чорныя CD, падрыўныя аўдыё- і відэаматэрыялы. Такой аблавы чорны рынак ня памятае з часоў «ваеннага камунізму», калі прадатрады забіраліся ў закрама ў пошуках хлебу. Флібуст'ерскія фірмы павергнутыя ў шок. Многія салідныя чаўнакі апынуліся на мяжы банкруцтва. Каму трэба, каб тысячы стаханаўцаў аўдыё- і відэанаёпак апынуліся на вуліцы бяз працы й сродкаў да йснаваньня?

На гэтае пытаньне ёсьць цэлы шэраг незалежных меркаваньняў.

А) Паводле некаторых зьвестак, «антыпірацкая» кампанія навязаная нашай краіне сапылямі з банды Камдэсю. МВФ выставіў умову: сёньня пірацкія дыскі – заўтра крэдыты. Тут адчуваецца прагная лапа мурэнаў заходняй папулярнай эстрады. Відаць, Майкл Джэксан на шляху да Лужнікоў праз Раўбічы быў задумаўся, калі высокапастаўлены чыноўнік працягнуў яму для аўтографу дыск з лэйблам «Made in Europe».

Б) Мусуюцца чуткі, што нібыта нейкі адзін манапаліст намагаецца выцесьніць з рынку непажаданых канкурэнтаў. Калі так, то вылічыць барыгу як два пальцы. Відавочна, гэта нэпман Супрановіч зь «Беларускай Музычнай Альтэрнатывы». Калі любімыя выканаўцы будуць прадавацца ня менш за дваццатку – хоч-ня-хоч, будзеш слухаць супераўскае «Хіюё маё», якое сёньня нікому й дарма ня трэба. Каб папулярызаваць свае рэлізы, Супер будзе ўстаўляць між трэкамі сьвядомых айчынных рокераў хіты ад Меладзэ, Зэмфіры й Круга.

В) Мы маем справу з вытанчанай апэрацыяй нашых па падрыву (толькі нікому ні-ні!) іхнага прагніўшага музычнага рынку. Канфіскаваныя капеечныя пірацкія копіі – моцная зброя і непарушны аргумэнт славянскай цывілізацыі. Кажуць, што неўзабаве канфіскаваная прадукцыя на здароўе Радзімы будзе выкінутая на рынкі Эўрасаюзу, выклікаўшы тымсамым паніку й хаос заходняй эканомікі. Атрымай у фанеру, буржуін пракляты!

Што ж будзе з канфіскаванымі сідзюкамі й касэтамі: пад каток, на звалку, на дно Сьвіслачы?... Занадта шмат гонару! Напэўна ж, мэляманы з МУС ня рубяць у сучасным фальклёры, аддаючы перавагу рамантычным мужным мэлёдыям, дзе няма месца саплям і нюням салодкага попу. Такім чынам, будзь пільны: у сьмецьцеправодзе, кантэйнэры, бачку могуць залягаць скарбы з CD. Не прамаргай удачу! Зазірай у сьметніцы, мэтадычна разграбай кантэйнэр. Бамжаваць – не парок. Тым больш, што на днях завозілі новенькія альбомчыкі Зэмфіры і РУЧЕК ВВЕРХ ●

**Білі Бонс**

# Атручаныя апэльсіны

Разборы палётаў паміж клюбам «4 апельсина» і журналісткай Н.Падабед напружыў амаль усю музычную і калямузычную тусоўку сталіцы. Коратка сутнасьць справы: Натальля наехала на клюб, абазваўшы яго сьвінарскім адстойнікам, клюб наехаў на Падабед, закляйміўшы тую «человекообезьяной». Надрукаваўшы ў музыкалцы па экзэмпляру сваіх памыяў, бакі былі поўныя сілаў і аптымізму працягваць разборкі. Склока вакол клюбу «4 апельсина» скончылася раптоўна і нечакана. Сьмерць скандальнай журналісткі, змагара за справядлівасьць і правы жывёлаў паставіла канец у гэтай поўнай няяснасьці гісторыі. Грамадзянка Падабед была знойдзеная ў сваёй кватэры. Яна ляжала на падлозе тварам долу ў рэштках ванітоўных сутаргаў ярка аранжавага колеру. У ейнай правай руцэ зіхацеў нож для рэзкі фруктаў, на лбе сінеў адбітак «хіп-хоп», а скручаная левая рука сьціскала кавалак паперы.

«У маёй сьмерці прашу нікога не вінаваціць, а тым больш Дымона Тушынскага. Пісаць гэты ліст мяне ніхто асабліва не прымушаў, хіба што абяцалі, калі не напішу, разабрацца ў іншым месцы. Гатовая пад прысягай пацьвердзіць, што клюб «4 поросё.. (закрэсьлена) апельсина» – самы круты клюб. Усё там сапраўды супэр: пару калёнак, пучок лямпачак рознакаляровых, музыка грае, народ пляша. І людзі там добрыя й чульлівыя. Асабліва дырэктар. Ён жа не вінаваты, што ягоны папа не трактарыст, а дырэктар ДК. Але нарадзіўся б ён у сям'і мэханізатара, усё адно клюбам бы заведаваў, бо чалавек ён вялікіх арганізатарскіх талентаў.

А галоўнае, я хачу адкрыцца ў тым, у чым я сама сабе баюся прызнацца. Кахаю я цябе, Дзіма! Кахаю і нічога не магу парабіць. А ты мяне так жорстка на Кірку Цьверскую, саўковую журналістку і пафарбаваную бляндынку прамяняў. Гэтага я дараваць проста не магу. Лепш мне згінуць, чым цярпець такое...»

Так што вясельля ня будзе. Разводу таксама ●

**Кіра Апэльсінава**

# Ізноў Астэрыкс

## *Героі антырымскага супраціву аказаліся няўгоднымі новаму гішпанскаму ўраду*




Толькі калгасьнік ня ведае бугая Астэрыкса – пэрсанажа прыкольных французскіх коміксаў пра гальскую вёсачку, жыхары якой замацярэлі мачыць рымлянаў-акупантаў. Больш чым за 30 гадоў згаданы комікс быў канонам юнацкай літаратуры, пакуль раптоўна ня высьветлілася, што Астэрыкс увогуле не такі ўжо бязгідны таўстун-небарака, як задавалася вам толькі ўчора.

**«Героі напрацягу ўсяго мульціка толькі й робяць, што мочацца, п'юць, трахаюцца й балуюцца наркатой...»**

Днямі газэта ляяльных да Мадрыду баскаў *El Diaro Vasco* завыла бялугай з патрабаваньнем забараніць продаж у Гішпаніі коміксаў Gosciny і Uderzo (аўтары Астэрыкса). Такія меры на погляд газэты, прадыктаваныя гістарычнымі паралелямі, што ўзьнікаюць у басконскага электарату, калі яму ў рукі трапляе згаданае чытво. Вядома, што менавіта баскі, а ня галы, былі адзінай выспай супраціву імпэрыялістыч-наму Рыму. Калі ўся Галія і Гішпанія запхнулі хлябалы і ня вякалі, жыхарам горных басконскіх аулаў артыкул КК аб абароне гонару Цэзара быў па барабану.

Колькі ні намагаліся рымскія імпэратары ўставіць клізму пірэнэйскаму краю, усё абарачвалася новай порцыяй цынкавых трунаў у Рым. Ня дзіва, што сёньня, маладога баска-тынэйджэра, які штудуруе памянёныя коміксы, літаральна пераклініьвае, быццам ён і ёсьць жывая рэінкарнацыя Астэрыкса, а гішпанцы – акупанты-рымляне.

Трэба браць пад увагу таксама той факт, што Басконія – кляяка ўсялякіх экстрэмістаў-сэпаратыстаў, кшталту лявацкай арганізацыі ЭТА. Улады не пасьпяваюць разганяць несанкцыянаваныя дэманстрацыі, вінціць адмарозкаў і забараняць палітычныя партыі прыхільнікаў незалежнасьці. Другая ня менш сур'ёзная падстава для забароны карыкатураў пра Астэрыкса – прапаганда спажываньня наркотыкаў і алькаголю напярэдадні палітычных акцыяў. У прынцыпе, адкуль у Астэрыкса й ягоных корышаў бярэцца такая ўбойная сіла, каб калашмаціць рымскіх мянтоў? Паводле сюжэту, як толькі ў паветры пахне разборкай з






рымскім спэцназам, нейкі друід Панараміксдастае са склепу агрэгат (кшталту самагоннага), заводзіць шарманку і – калі ласка, праз паўгадзіны – жбан чароўнага адвару гатовы. Галы аральна рухаюцца і ў стане прыходу робяць з рымлянаў донэр-кебаб. Нядзіўна, што віно і піва – звыклы дэкор адвязных басконскіх маніфэстацыяў. Аднак ляяльнае да афіцыйнага Мадрыду грамадзтва ня дрыхне ў падушку! Вышэйпералічаных матываў цалкам дастаткова, каб унесьці Астэрыкса ў рэестар палітычна некарэктных культурных твораў, накшталт парнушнай «Эмануэль» або «Маніфэсту Камуністычнай партыі» Маркса. «Басконская моладзь павінна выхоўвацца на богаўгодных коміксавых пэрсанажах», – заключае калюмніст *El Diaro Vasco* – кшталту пурытаніна Мікі Маўса або фрыгіднага Бжыка».

Што ж, тады можна спадзявацца, коміксы пра слаўных галаў неўзабаве перакачуюць на падпольную прадукцыю ЭТА ў разьдзел «для самых маленькіх» ●

Паводле матэрыялаў гішпанскай прэсы падрыхтаваў **Бонавэнтура Дуруці**

# КОМІКС


HABIHKI
HOME VIDEO
PRESENTS
BACK TO THE FUTURE
Waldemar
Bankey
Paloyker
Mikola
Lolik
&
others
...Хлопчык Сярожа падчас школьных вясновых вакацыяў прыяжджае на экскурсію ў горад-герой Менск паглядзець на слана...


О-го, які бальшы горад!
Аднак падчас шматлікіх шопінгаў Сярожа адбіўся ад групы й заблукаў у лябірынтах вялікага гораду. Лёс занес яго на вуліцу Варвашэні...


Гэй, каўбой, павесялімся?




Анягож, канешне дапамагу!


...Тут мы разаб'ем бутафорскія камэры, тут статысты з АБСЭ...
Конгеніаль!
Путана зацягнула Сярожу на Ўправу Фронту, дзе экстрэмісты рыхтавалі чарговую правакацыю з нагоды «Дня Волі»


Кліент сасьпеў!
Я ў поўнай кандыцыі! Жыве Беларусь!


Зараз шырнем яму пару кубікаў бел-чырвона-белага


Хочаш убачыць Аршанскую бітву?
Не кані! Табе спадабаецца!


А-А-А-А-А!


Дзе я?..
Аднак Сярожка зь непрывычкі перадазнуўся і замест абяцанага 16 стагодзьдзя трапіў у халодную менскую вясну 1918 году...


Ты адкуль, браток, будзеш? Не з фронту, часам?
Я?.. З Фронту...


А, дэпутат ад салдацкіх мас! Акурат у час! Хадзем з намі контру душыць!


У залі Губэрнскага драмтэатру засядаў контаррэвалюцыйны II Усебеларускі кангрэс.


Ціха, ціха! Дайце слова прадстаўніку фронту!


Э-э-э... Ганьба! Ганьба!!!


Ганьба!
Ганьба!
Далоў!
Ганьба!


На выхад! Зараз начная дыскатэка і DJ Кайзэр


Да ну! Лепей у бабак самагонкі ўзяць
Ну што, возьмем «Царскай»?..
Айда да цёткі Алаізы!


Варонка, глядзі! Купала на хвост падсеў!


Нешта мне здавалася што сёньня нейкае сьвята...
Можа ганца пашлем у бардэль на Падгорную,38


Маю тост з нагоды абвяшчэньня БНР...


Правільна! Давайце абвесьцім БНР!


...абвяшчаецца Беларуская Народная Рэспубліка!


Трымай, сынок! І што гэта я сам да гэтага не дапёр!


Э-э-э... Жадаю, каб усе!


А-А-А-А-А!


Яшчэ нам жмурыка тут не хапала!
Гэй, Сяржук! Давай, не дуры!


Цыгель, цыгель! Грузавік да хаты у-у-у-у!


Во пашанцавала: і з рэйвэрамі патусаваўся
і паперак на растопку далі!
Доўга потым Сярожа распавядаў сваім аднавяскоўцам, як ён у бальшым горадзе быў...